*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша Слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 4(338) 4 ЛЮТАГА 1998 г.**

## Шаноўнае спадарства.

Пачынаючы з мінулага нумара газета "Наша слова" пайшла ў шапікі "Саюздруку" ўсіх раёнаў усіх абласцей Беларусі. Газета стала штотыднёвай. Адзін этап пройдзены.

На чарзе паляпшэнне якасці і павелічэнне. аб'ёму газеты. Фактычна ўжо вядомы вынікі падпіскі на люты. Павелічэння колькасці падпісчыкаў пакуль не адбылося, але пашыраецца кола аўтараў. Пайшлі матэрыялы з Усходняй Беларусі. Спадзяёмся, што ў лютым мы стабілізуем сістэму распаўсюджання газеты і яе наклад.

***Станіслаў Суднік***

## УВАГА! ГЕНАЦЫД!

У Гарадзенскія школы паступіла каманда спыніць вывучэнне творчасці Ларысы Геніюш, Масея Сяднёва і Наталлі Арсеневай. Аперацыя па "ліквідацыі" трох беларускіх паэтаў распрацавана ў ведамстве палкоўніка Замяталіна пад кодавай назвай " Скарачэнне школьнай праграмы". Намеснік Міністра адукацыі Генадзь Дылян у сувязі з гэтым спасылаецца на запыты і публікацыі ў прэсе, якія быццам бы патрабуюць выкрасліць з літаратуры гэтых сапраўды беларускіх паэтаў.




Калі ідзе масавае знішчэнне людзей і падрываецца генны патэнцыял нацыі, гэта называецца генацыдам. Як назваць знішчэнне культуры народа, яго творчых набыткаў? Духоўны генацыд? Іншага слова не знаходзіцца.

## Дні Беларусі ў Гародні

*З 21 па 24 студзеня ў Гародні прайшлі дні Беларускай літаратуры прысвечаныя 200-м угодкам са дня нараджэння Адама Міцкевіча, як бы каму гэта не падабалася, а, менавіта, тутэйшага, ліцьвінскага, сённяшняй мовай, беларускага паэта.*

*З Менска ў Гародню прыехалі Рыгор Барадулін, Міхась Скоба, Лявон Баршчэўскі,Вячаслаў Ракіцкі, Уладзімір Арлоў, Генадзь Бураўкін. Гарадзенцы дадалі ў гэтую шаноўную кампанію Дануту Бічэль і Аляксея Пяткевіча, ды Віктара Шылкевіча.*

*Майстры слова правялі Ў Гародні 35 сустрэч, у тым ліку 24 са школьнікамі. І толькі ў г. Скідалі ды калгасе "Капцёўка" літаратары аказаліся персонамі "нон грата", а калі прасцей, іх туды не пусцілі. Усяго на сустрэчах з літаратарамі і літаратурай пабывала больш васьмі тысяч гарадзенцаў.*

*Гарадзенцы, як маглі аддзячылі гасцей. У прыватнасці Уладзіміру Арлову перададзены вялікі збор архіўных матэрыялаў пра Міхася Валовіча, змагара за Беларусь, павешанага Мураўёвым у 1833 годзе. Так што трэба чакаць новага гістарычнага рамана ад Арлова.*

У гэтыя тры дні ў горадзе над Нёманам гасцявала Беларусь. Гарадзенцы ды жыхары Ваколіцаў мелі рэдкую магчымасць пабачыць і пачуць Лявона Баршчэўскага, Вячаслава Ракіцкага, Уладзіміра Арлова, а таксама Віктара Шалкевіча, Міхася Скоблу ды яшчэ шэраг асобаў. Найвышэйшы ўзровень імпрэзам надавала прысутнасць Рыгора Барадуліна, які ўразіў аўдыторыю бляскам свайго таленту.

Выступы збіралі поўныя залы. Публіка пасля сустрэчы расхоплівала кніжкі для чытання і пад аўтографы, і хочаце верце, хочаце не, але разыходзілася з выразам шчасця на тварах. Прыемна нам успомніць яшчэ раз пра тую імпрэзу, таму дазвольце падзяліцца некаторымі ўражаннямі, хаця і не вельмі ўпарадкаванымі, ад вячарыны ў Гарадзенскім універсітэце.

### 1. Размаітасць.

Гэта не была сустрэча з нейкай групай, прадстаўнікамі нейкага накірунку. Гэта было рэвю, на якім кожны выступоўца рэпразантаваў сябе і Беларусь. Гэта аб'ядноўвала. Гэта лучыла рамантычны пафас Баршчэўскага, фарс Шалкевіча, грамадзянскі запал Ракіцкага. І гэтага хапала, бо па гэта і прыйшлі людзі.

### 2. Несавецкасць.

"Тэмы і Вобразы" ўсе былі несавецкія. Што пераклады Баршчэўскага, што эпіграмы і "дурноты" Барадуліна не адпавядалі старым клішэ. Публіка бачыла — і вітала — новую беларускую культуру. Асэнсаванне гэтага яшчэ наперадзе, але адчуванне ўжо ёсць: хоць бы яна здолела выжыць, гэтая новая рунь, бо яна цудоўная!

### 3. Нясумнасць.

Нават самыя змрочныя сюжэты абышліся без енку і безнадзейнасці. І няма ў сэрцы жалю ні жаху, як няма і штучнага аптымізму. Нарэшце прыходзіць усведамленне, што культура вышэйшая за рэжым, калі ёсць воля і талент.

### 4. Майстар.

Барадуліну прапета ўжо столькі панігірыкаў, што няварта падносіць яму яшчэ адзін. Божы дар - вось вызначэнне таленту, таму Богу хвала і слава за тое, што даў чалавеку моц некалькімі словамі ўзвышаць душу, радаваць сэрца, прасвятляць розум.

Такія ўражанні і радасці. Толькі не пазбыцца адной думкі: такую б сустрэчу на колькі год раней. Сапраўды, позна-позна, і крый Божа, каб не рана-рана. Дорага даецца несавецкасць. А каб раней, можа не было б гаворкі пра ўказ "перафарбаваць буслоў -бо кожны бусел бел-чырвона-белы". Але адно давала сустрэча - шмат у Гародні людзей, якія чуць не хочуць пра такі ўказ.

І апошняе - пра кнігі. Шмат чаго было прывезена цікавага, што ніяк не трапляе ў гарадзенскія кнігарні. Не з'явіліся і пасля сустрэчы. Гандаль не паддаецца. А дарма, бо як куплялі тыя кнігі!...

***Д.Жукоўскі.***

## *Добры дзень, шматшаноўная рэдакцыя "Нашага Слова"!*

Прачытаў першы нумар адноўленай газеты і хачу выказаць адну заўвагу. У наш час, калі супраць беларускай мовы аб'яўлена адкрытая вайна, не па кішэні беларусам выдаваць такую слабую газету, як гэты нумар "Нашага Слова". Цяпер замала толькі інфармаваць нешматлікага чытача газеты пра былую гісторыю нашай мовы і яе сучасны жабрацкі стан, трэба прапаноўваць кожнаму патэнцыяльнаму чытачу нешта канкрэтнае для падтрымкі нашай мовы. Бо мова — адна з найгалоўнейшых гарантый існавання ў будучыні Беларусі і беларускага народа. У кожным нумары павінна быць інфармацыя, якая давала б магчымасць чытачу ўдзельнічаць у асобных мерапрыемствах Таварыства Беларускай Мовы па абароне яе ад знішчэння. Трэба друкаваць план гэтых мерапрыемстваў, каб кожнаму можна было б далучыцца да іх, рэкламу беларускіх кніг, рэкламу беларускіх газет і часопісаў. Прапаную падтрымаць выдавецтва "Наша Ніва" і надрукаваць рэкламу забароненага манкуртамі новага зборніка твораў нашага народнага пісьменніка Васіля Быкава "Сцяна", а таксама кнігі Аляксандра Лукашука "За кіпучай чэкісцкай работай". На маю думку кожная суполка ТБМ павінна арганізаваць распаўсюджванне "Сцяны", якая, мяркуючы па ўрыўках надрукаваных у "Народнай Волі" (вялікі "дзякуй" ёй за гэта), адметная, як і ўся быкаўская проза цудоўнай мовай, прасякнута праўдай нашага жыцця, якая, на жаль, яшчэ не адкрылася большасці нашага насельніцтва. Асабіста для мяне кнігі шаноўнага Васіля Быкава з'яўляюцца нечым накшталт крыжаляў, якія Майсей атрымаў на гары Сінай. Творы Васіля Быкава, на мой погляд, маюць для беларускага народа токое ж вялікае значэнне, як кнігі Францішка Скарыны ў яго час. Гэта маральны і духоўны падмурак, на які павінна абапірацца будучыня Беларусі, і , вядома, тыя, хто ненавідзіць Беларусь, хоча выбіць гэты падмурак з-пад ног беларускага народа. Таму мы, беларусы, павінны зрабіць усё, каб абараніць і распаўсюдзіць творы Васіля Быкава. Мяркую , што шчырыя беларусы ўсяго свету будуць лічыць за гонар мець новы зборнік знакамітага пісьменніка.

Пачалася падпісная кампанія на перыядычныя выданні на 1998 год. Апошнім часам наклады беларускамоўных выданняў катастрафічна змяншаюцца. Таму патрабуецца тэрміновая дапамога сяброў ТБМ. Прашу таксама надрукаваць аналітычна-рэкламную інфармацыю пра беларускамоўныя дзіцячыя газеты і часопісы.

***З пашанай***
***Уладзімір Вярховіч***
***г.Менск.***

***Ад рэдакцыі.*** *Мы не спяшаліся друкаваць гэты ліст. І не таму, што вырашылі замаўчаць крытыку, а таму, што спрачацца вакол аднаго нумара ды абмяркоўваць яго не мела сэнсу. Мабыць рана пра нешта казаць, нават, сёння, калі ідзе да чытача восьмы нумар адноўленай газеты.Як нам падаецца, рэдакцыя ў некаторай ступені ўлічыла заўвагі сп. Вярховіча. Спадзяёмся, што ўлічыць і кіраўніцтва ТБМ і іншыя зацікаўленыя арганізацыі, ад якіх залежыць, каб уся нашая газета не была такая слабая, як быў яе першы нумар.Але мы мусім нагадаць, што мы робім народную газету і якасць ды сіла яе ў вялікай ступені залежыць ад тых матэрыялаў, якія мы атрымоўваем ад вас,шаноўныя чытачы.*

### *"Ашмянскі веснік" пра "Наша Слова".*

Падведзены вынікі на першы квартал 1998 года па Ашмянскаму раёну. Мясцовая газета "Ашмянскі веснік" падкрэсліла, што ў раёне 19 чалавек выпісала " Наша Слова" з іх шэсць у горадзе і трынаццаць на вёсцы, што вельмі цікава і вельмі прыемна.

Лепшых звестак мы пакуль не маем ні з аднаго раёна, але спадзяёмся займець сяброў іпрыхільнікаў ва ўсіх раёнах і абласцях.

### БЕЛАРУСКІЯ ДЗІЦЯЧЫЯ ГАЗЕТЫ І ЧАСОПІСЫ

Падпісныя звесткі на I-II кв. 1998 г.

| Індэкс | Назва | Перыядычнасць | Кошт на 1 месяц | Кошт на 3 месяцы |
|---|---|---|---|---|
| | Газеты: | | | |
| 63877 | **Раніца(Піянер Беларусі)** Для дзяцей і падлеткаў. | 1/т | 2400 | 7200 |
| 63865 | **Наша Слова** Для дзяцей старэйшага ўзросту. | 1/т | 1200 | 3600 |
| | Часопісы: | | | |
| 74822 | **Бярозка** Для дзяцей малодшага і сярэдняга ўзросту. | 6/пг | 12000 | 36000 |
| 74845 | **Вясёлка** Для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту. | 6/пг | 8000 | 24000 |
| 75086 | **Лесавік** Для дзяцей дашкольнага і мал. школьн. ўзросту | 3/пг | — | 30000 |

***Любіце гэтую святую зямлю аддана і да канца , іншай вам не дадзена дый непатрэбна.***

***У. Караткевіч.***

Пад гэтымі словамі-лозунгам з 26 па 30 студзеня ў Лідзе прайходзіла конкурс-гульня "Зямля пад белымі крыламі", арганізаваная Цэнтрам дзіцячага і юнацкага турызму і экалогіі сумесна з Лідскай гарадской радай ТБМ імя Францішка Скарыны. У гульні прымалі ўдзел вучні 9-11 класаў усіх школаў горада, за выключэннем гімназіі, кіраўніцтва якой праігнаравала імпрэзу. 30 студзеня ў фінале гульні сустрэліся каманды 4-й, 5-й, 9-й і 15-й школаў. Найбольш падрыхтаваным быў фальклёрны конкурс "Саджэнне на пасад", "Гуканне вясны""Ваджэнне куста", "Масленіца" — вось іх тэматы-ка.




Упэўненую перамогу ў гульні атрымала 9-я школа. На другім месцы 4-я, на т рэцім 15-я.

Любоў да Бацькаўшчыны, непакой за яе лёс рэфрэнам гучалі на працягу гульні.

***"Божа, адвядзі ад Беларусі здраду, вераломства і вайну".***

Вядомая песня з гэтымі словамі ў выкананні вучаніцы 9-й школы завяршыла вечарыну. Нельга не дадаць, што зала гарадскога дома культуры была паўнюткай. Усе ўдзельнікі фіналу атрымалі падарункі — кнігі беларускіх пісьменнікаў.



№ 4(338) 4 ЛЮТАГА 1998 г. Наша слова

## У выбары мовы стабілізацыі не бачна.

Наш міністр адукацыі В.У. Стражаў на настаўніцкім з'ездзе гаварыў: "У гэтым навучальным годзе сітуацыя захоўваецца на ўзроўні мінулага года, што сведчыць пра намеціўшуюся стабілізацыю з выбарам мовы навучання ў агульнаадукацыйнай школе". Але і паказчыкі прайшоўшага года не радуюць, бо толькі 32% першакласнікаў у РБ навучалася на беларускай мове. Праўда, у Менскай вобласці гэта лічба склала 61,4%, а у Гродзенскай 50,8%. У Ашмянах таксама было нядрэнна, бо з 14 першых класаў беларускамоўных мелі 9, а расейскіх - 5. У цэлым, у пачатковай ступені ашмянскіх школ беларускамоўных класаў мелася 29, расейскіх - 15 .Таму я вельмі здзівіўся весткаю, што ў Смаргоні - нашых суседзяў - з 14 першых класаў толькі два былі беларускамоўнымі.

У гэтым 1997-98 навучальным годзе і ў Ашмянах адбыліся значныя змены і расейскамоўныя класы атрымалі значную перавагу. Іх з усіх пачатковых класаў стала 24 ( на 9 больш чым летась), а з першых класаў ужо 10 і толькі 4 на беларускай мове. У іх адпаведна вучыцца 220 і 80 дзяцей. Таксама засмуціла паведамленне газеты "Свабода" (№123), што ў Гародні ў 1997 г. пачалі навучанне на беларускай мове толькі 4 класы (у 1994 г. іх было 75). І справа тут зусім не ў свабодным і свядомым выбары мовы навучання. У большасці бацькі вымушаны выбіраць расейскую мову з прагматычных меркаванняў. Усе бачаць, як беларуская мова выцясняецца з ужытку ў дзяржаўных установах, кантрах розных арганізацый, хоць яна і мае статус дзяржаўнай. Тэхнікумы і ВНУ таксама працуюць на расейскай мове і выпускнікі школ не маюць магчымасці прадаўжаць навучанне на роднай мове. Вось такая рэчаіснасць уплывае на бацькоў і фармуе іхняе права выбару мовы навучання сваіх дзяцей.

Працэс змяншэння беларускіх класаў будзе прадаўжацца, бо навучанне на дзвюх мовах у школе стварае значныя цяжкасці і ўскладняе навучальны працэс. Вось чаму адміністрацыя школ у большасці зацікаўлена, каб выцісьнуць беларускія класы поўнасцю, і часта ажыццяўляе націск у гэтым кірунку. Гэта сітуацыя вядома Міністэрству адукацыі Беларусі. На сустрэчы з групай дэлегатаў Другога з'езду беларусаў свету В.У. Стражаў сказаў: "Я не магу адказваць за тых дырэктароў і настаўнікаў, якія хацелі зрабіць сабе больш лёгкае жыцце, каб былі толькі рускія або беларускія класы". ("Наст. газета",№62). У гэтых словах выявілася супярэчлівая пазіцыя Міністэрства ў адносінах да парушэння канстытуцыйных правоў грамадзян. На кожную расейскамоўную заяву ў школах неадкладна рэагуюць, беларускія ж ігнаруюць. З усяго сказанага відно, што стабілізацыі ў моўным пытанні не існуе, Міністэрства адукацыі свядома ўхілілася ад станоўчага ўплыву на яе і адпусціла поўнасцю на вырашэнне бацькоўскай грамадскасці, дакладна ведаючы, што ў гэтым выпадку пераможа каўбасны прагматызм.

*Міхась Пузіноўскі, настаўнік - пенсіянер, гор. Ашмяны.*

## ГАЛЬШАНЫ

### МОВА – ДУША НАРОДА

Прайшоў тыдзень беларускай мовы і літаратуры ў Гальшанскай СШ. У кожным класе вучні правялі цікавыя мерапрыемствы: літаратурная гадзіна " Мы — беларусы", 6 клас, гутарка з наведваннем школьнага музея "Шануйце сваіх землякоў" (Андрэй Зязюля, Вінцук Адважны) 7 клас, "Вясёлая віктарына па граматыцы беларускай мовы", 5 клас, гадзіна паэзіі і літаратурныя вечарыны. Вучням дапамагалі настаўнікі-моваазнаўцы З.В.Шыдлоўская, В.П. Сазонава, А.М. Малышка, І.С. Невядомская, а таксама работнікі дзіцячай бібліятэкі.

### КАНСТАНЦЫЯ БУЙЛО – НАША ЗЯМЛЯЧКА

Песняй "Люблю" адкрылася літаратурная вечарына, прысвечаная паэтэсе. Настаўніца А.М. Малышка расказала пра жыццё і творчасць К. Буйло, якая нарадзілася на Ашмяншчыне, правяла агляд зборнікаў вершаў "Курганная кветка", "Світанне", " На адноўленай зямлі", "Май", "Роднаму краю".

Пра паэтычную творчасць гаварылі і вучні 11 класа. Так, Т.Арэшкава прачытала верш "У маі", распавяла пра пейзажную лірыку К.Буйло.

Філасофскую лірыку паэтэсы ахарактэрызавала А.Лісоўская. Вершы пра каханне прачыталі С. Корзун і Ю. Баўдзей.

У вершах Канстанцыі Буйло ў выкананні гальшанскіх школьнікаў гучала гарачая любоў да роднай мовы, бацькаўшчыны, яе прыроды, да чалавека, натхнёнага вялікім пачуццём кахання.

Многія вершы паэтэсы пакладзены на музыку і набылі шырокую вядомасць , а песня "Люблю" стала народнай.

11 студзеня 1998 года споўнілася 105 год з дня нараджэння паэтэсы Канстанцыі Буйло, і літаратурная вечарына , праведзеная вучнямі 11 класа — адвечная даніна памяці паэтэсы- зямлячкі.

### У ГАСЦЯХ У КАЗКІ

Кожны год вучні школы з захапленнем рыхтуюцца да "Свята казкі". Загадзя наведваюць бібліятэкі, дзе зборнікі казак нарасхоп. Раяцца з настаўнікамі, сябрамі, бібліятэкарамі пра тое, якую казку паставіць на школьнай сцэне. У 5-х класах праведзена віктарына " У гасцях у казкі". Яе падрыхтавала арганізатар дзіцячага руху школы Д.У.Рунец.

Але спачатку бібліятэкар Н.М.Шаховіч правяла агляд зборнікаў казак, рэпрэзантаваных на кніжнай выставе. Яна расказала пра зборнікі казак, якія паступілі ў апошні час у дзіцячую бібліятэку: "Беларускі фальклор", "Вячэрняя казка", "Казкі беларускіх дзяцей". Звярнула ўвагу да замежных казак братоў Грым, Андэрсана.

Потым Данута Уладзіміраўна задавала цікавыя пытанні віктарыны. Трэба было па рэчах адгадаць герояў народных казак, назваць аўтараў казак. Добра адказвалі на казачную віктарыну Астрамовіч Артур, Багданчык Алена, Адашкевіч Віця, але пераможцам стаў Спірыда Саша.

### ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Цікавыя элементы гульні ўнесла ў гэта падарожжа настаўніца В.П. Сазонава. Вучні 5-х класаў пад яе кіраўніцтвам намалявалі карту-план маршрутаў са станцыямі "Лінгвістычная", "Літаратурная", "Фальклорная". Саставілі дзве каманды, далі заданні на дом: прыдумаць назву каманды, эмблему і як абараніць сваю назву, выбраць капітанаў. З хатнім заданнем каманды добра справіліся. Смешна назвалі свае каманды. А калі сабраліся разам, падарожжа ў краіну роднай мовы пачалося. Спачатку вандроўнікі спыніліся на станцыі "Лінгвістычная". Тут яны разгадвалі шарады, анаграмы, складалі рэбусы. На гэтай станцыі самым кемлівым быў Дзіма Маліноўскі, на станцыі "Літаратурная" адбыўся конкурс капітанаў, у якім перамагла Наташа Чымбар. Яна выразна расказала верш пра мову. Задаваліся пытанні камандам: назваць аўтараў па ўрыўках твораў або вершах.

Спаборніцтва працягваецца. Весела было на станцыі "Фальклорная". Тут гучалі прыказкі і прымаўкі, загадкі. Вылучылі лепшых знаўцаў беларускіх народных казак, загадак, самых вясёлых і дапытлівых вандроўнікаў. Гэта Света Макарэвіч, Алёша Дарняк, Павел Кавалёнак.

Вось так закончылася падарожжа ў краіну беларускай мовы . Вандроўнікі не толькі пазналі многа цікавага пра родную мову, але вылучылі добрых чытальнікаў вершаў, вучняў, надзеленых гумарам.

Такая форма літаратурнай гульні - падарожжа вельмі спадабалася пяцікласнікам.

### БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

Гэтую тэму паспрабавалі раскрыць вучні 9-х класаў. Літаратурная гадзіна пачалася ўступным словам настаўніцы І.С.Невядомскай. Яна сказала, што адной з рыс беларускага адраджэння нашага часу, апрача вывучэння сваёй мінуўшчыны, гістарычных каранёў, роднай мовы, з'яўляецца ідэя аб'яднання ўсяго беларускага народа. Лёс параскідаў народ па розных краінах. Беларусы жывуць сёння ў ЗША, Англіі, Аўстраліі, Германіі, Канадзе. Адарваныя ад Бацькаўшчыны, многія не толькі не забываюць пра родную мову, культуру, але і развіваюць яе.

З рэфератам пра паэтаў-эмігрантаў выступіла Каця Шышко (9клас) . Вучні чыталі вершы Я.Золака, Н.Арсенневай, Л.Геніюш, М.Кавыля, Р.Крушыны, М. Сяднёва. Затым была праведзена літаратурная гульня "Што? Дзе?Калі?" на тэму "Беларускае замежжа". Вучні даведаліся пра культурна-асветніцкія цэнтры, створаныя суайчыннікамі за мяжой, пра Беларускую бібліятэку - музей імя Ф. Скарыны, якая існуе ў Англіі, пра выдатнага лекара, грамадска-палітычнага дзеяча М.Судзілоўскага-Руселя, пра нашага земляка, ганаровага амерыканца, вучонага акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы-Барыса Кіта. За гэтую літаратурную гадзіну вучні 9-х класаў дакрануліся да беларускай культуры замежжа, якая мае сваіх выдатных прадстаўнікоў у галіне літаратуры, мастацтва, навукі.

***В. ЛАБУНІНА, Загадчыца Гальшанскай дзіцячай бібліятэкі.***

***Яўген Гучок.***

## Чарговае нагадванне.

Пры чарговай хвалі баларусафобіі і ў прыватнасці — чарговага прыліву нянавісці да беларускай мовы (а камусьці хацелася б, каб прыліў той быў апошні і канчатковы!) з боку дэгенератаў - ренегатаў усіх вертыкаляў і гарызанталяў і іх цэнтру трэба ўсім ім жа нагадваць, што разнастайныя працэсы і з'явы ў свеце ішлі, ідуць і будуць ісці зусім па іншаму, чым хацелася б ім - носьбітам дэфармаваных мазгоў.

Хваліцца - гэта ўласцівасць, рыса рабоў. І таму, калі перад табой хтось крычыць, што ён больш за ўсіх любіць Радзіму, ведай — перад табой раб і, прытым, раб крывадушны. А калі і любіць ён што ў Радзіме, дык гэта абіраць і знявечваць яе душу ды па замежжах за яе кошт раз'язджаць. А калі ён да того ж крычыць, што яго мова лепшая за іншыя, то гэта зноў жа рэчы таго ж парадку. У пэўнай ступені ў якасці класічнага прыкладу нядрэнна сюды кладзецца сітуацыя з вершамі надзвычай таленавітага, па выказванню І. Сталіна, паэта эпохі - У.Маякоўскага — класіка расейскай савецкай літаратуры. Пра сваю радзіму - Расею з яе душой і мовай яшчэ толькі ўчора ён заяўляў:

"Я не твой,
снеговая уродина!".

Праз пару ж дзён з пазіцыі звычайнага палітычнага шпікулянта і дэмагога паэт абвяшчае:

"Да будь я
и негром
преклонных годов,
И то без унынья
и лени
Я русский бы выучил
только за то,
что им разговаривал
Ленин!"

Гаворачы ж сур'ёзна пра чалавечыя мовы ўсяго свету, можна ніколькі не сумнявацца, што ўсе яны, мовы тыя, з'яўляюцца і вялікімі, і магутнымі, і свабоднымі, бы расейская , пра якую так пісаў І. Тургенеў.

Сапраўды, хіба ж ёсць дзе ў свеце хоць адна мова, на якой немагчыма было б выказваць любоў да маці, замілаванне Радзімай, высокія пачуцці да каханай, пяшчоту да дзіцяці, удзячнасць Богу за тое, што ты нарадзіўся чалавекам? Выказаць гэтыя пачуцці здольна любая мова свету. Такое тычыцца расейскай і нямецкай, беларускай і польскай, украінскай і летувіскай, ангельскай і яўрэйскай... І так да бясконцасці. А чаму ж, можна запытацца, М. Ламаносаў і Г. Дзяржавін сцвярджалі, што расейская мова па мілагучнасці і мужнасці не саступае лацінскай і старажытнагрэцкай мовам, а вядучыя сучасныя еўрапейскія мовы дык значна пераўзыходзіць ва ўсіх адносінах? Адказ тут вельмі просты. Гэта ў іх разам з імперскасцю гаварыў здаровы дух нацыяналізму, нацыяналізму абарончага, а калі дакладней - патрыятызму. І было яно тады так таму, што расейскай мове адводзілася сціплая роля і пры расейскім імператарскім двары, і ў расейскай акадэміі навук, і на службе ўвогуле, і нават у войску. І г.д. І. Тургенеў жа, зразумела, сумаваў у далёкім замежжы і, адначасова адчуваў духоўную моц Еўропы, як патрыёт Расеі, не мог інакш пісаць пра сваю мову.

Незалежна ад таго, хто і як выказваўся пра тую ці іншую мову, хто і як да іх ставіўся, яны, мовы тыя, існавалі і існуюць аб'ектыўна. Дзе адкрыта, а дзе патаемна. І ўсё, відаць, таму, што ні адна мова не існуе сама па сабе, што яны належаць не толькі аднаму якому - небудзь народу, а ўсяму чалавецтву. Мовы паміж сабой не ізаляваныя. Яны, бы вада ў акіяне; яны самі, калі хочаш, складаюць моўны акіян. А пэўныя мовы вызначаюцца там па берагах і жыхарах, што адзін без другога існаваць паўнацэнна не могуць. Вось чаму мы і маем у кожнай мове дзесяткі, сотні, тысячы, больш таго - сотні тысяч слоў , запазычанных з іншых моў, дакладней з моўнага акіяна.

Возьмем, з прыкладу, словы на літару **а** ў расейскай мове. Колькі іх? Каля тысячы. Якое багацце! А вось уласна расейскіх сярод іх дык ці з дзясятак набярэцца?!. Гэта: ах, ахти, авось, авоська, ау. Ну і яшчэ, відаць, сёе - тое можна знайсці. Дарэчы, "авоську"— сетку прыдумаў яўрэй Аркадзь Райкін. Калі ж, да прыкладу, возьмем "антонаўку", дык слова гэта паходзіць ад старажытнагрэцкага імя Антон, адзін з носьбітаў якога быў у свой час добрым садоўнікам-селекцыянерам. А слова "азбука" збудавана па аналогіі са старажытнагрэцкім "алфавіт". А рабілася гэта так. Адпаведна бралі першую і наступную (другую) літары ў старажытнагрэцкай і стараславянскай мовах, складалі іх гукавую выяву і атрымлівалі новае слова. Праўда, у грэкаў вышэй названае складанне было дзесьці на тысячу гадоў раней. Адным словам - са словамі на літару **а** ўсё ясна. Не верыш — адкрый этымалагічны слоўнік і сам ўсё убачыш. А калі глянеш далей слоўніка, то зразумееш, што кожнае ўласнае слова ёсць адпаведнік таму, што носьбіты той ці іншай мовы вынайшлі, самі стварылі ў жыцці, навуцы, побыце і г.д. Дык вось выходзіць, што некаторыя вялізныя этнічныя папуляцыі апроч такіх азначэнняў, як бізун, пагром, рабаўніцтва, халява і г.д., мала чым сябе ў добрым сэнсе гэтага слова абцяжарваюць. Ды і сваёй сучаснай, амаль цалкам запазычанай у мінулым продкамі мовай сённяшнія яе носьбіты часам валодаюць не вельмі. Больш таго, часам суседзі, якія належаць зусім да іншай этнічнай і моўнай сем'яў, валодаюць іх мовай значна лепш. Для прыкладу параўнайце мову В. Чарнамырдзіна з расейскай мовай чачэнцаў А. Масхадава ці М. Удугава — і ўбачыце, што ўсё тут не на карысць расейскага прэм'ера. Дзякаваць Богу, што ён (В. Чарнамырдзін) не ўжывае такіх перлаў, якія наслухаешся на Беларусі ад карэнных русакоў: "таперыча, ехай, иттить, нонче, давече, милай, зерькало, дряники, Веньгрия и т.д. и т. п.". А якія моўныя дыяменты злятаюць з вуснаў беларускіх "чэсных" кіраўнікоў - "расейскаязычнікаў"!

Аднак вернемся да нашай літары **а** і да тых, што ідуць за ёй. Адразу ж трэба сказаць, што такая ж карціна назіраецца ў нішах і іншых літар — аж да **я**. Безумоўна, гэта ні ў якім разе не сведчыць пра тое, што, маўляў, няма самастойнай расейскай мовы. Яна, бяспрэчна, ёсць, як ёсць беларуская, украінская, летувіская, японская, яўрэйская і іншыя. А вось што лёс беларускай мовы незайздросны - гаворка асобная. Над ёю, як і над беларускім народам, адбыўся вялікі гвалт, і апошняга адвучылі, дакладней, адбілі ад яго роднай мовы. І калі сёння кажуць, што беларусы самі не хочуць карыстацца сваім словам, то ці не нагадвае гэта тое, калі б чалавеку з перабітымі нагамі сказалі "Скачы! Не забараняецца! Наадварот, мы табе яшчэ і на гармоніку падыграем"?! Ці не блюзнерства, ці не святатацтва тут адкрытае, цынічнае?! Але будзем памятаць, што ні што не праходзіць. І будзем працаваць, як бы нам ні перашкаджалі. А тыя, што перашкаджаюць, хай таксама памятаюць, што, робячы нам балюча, яны нас і загартоўваюць адначасова. Яшчэ хай памятаюць, што мы сваёй працай па зберажэнні Божага дару — мовы беларускай — у пэўнай ступені ратуем і іх перад судом Божым . Несумненна, было б лепш, каб яны, перашкоднікі тыя, хоць паспачувалі нам, а можа, і дапамаглі. Але спадзявацца на такое асабліва не даводзіцца. З Божай дапамогай і самі будзем рухацца.

А на прыканцы павінен паведаміць для тых, хто адмаўляе беларускую мову, што аўтарам самага лепшага тлумачальнага слоўніка жывой вялікарасейскай мовы з'яўляецца выдатны мовазнаўца і лексікограф датчанін У. Даль і што ён жа складаў такія ж слоўнікі ўкраінскай і беларускай моваў. Толькі вось шкада, што яшчэ не прыйшоў час іх выпуску.

*Уладзімір Скрабатун*

# БАРАН — СВЯТАЯ ЖЫВЁЛА ГЛЫБОЧЧЫНЫ

Ці маюць беларусы сваё святое быдла альбо птахаў? Індусы ж маюць! Нехта скажа: "Напэўна — бусел!" Аднак бусел ёсць больш персанажам фальклёру. Вось,напрыклад, малым дзецям, на пытанне: "Адкуль я ўзяўся?", адказваюць: "Прынёс бусел!" Між тым, як паказвае рэчаіснасць, бусел да гэтага не мае ніякага дачынення, фактам толькі ёсць тое, што 25 сакавіка ( па хрысціянскаму календары звеставанне прынята на Беларусі лічыць днём, калі з выраю вяртаецца ў наш край бусел. Аднак менавіта ў гэтыя дні праз дзевяць месяцаў нараджаюцца дзеці, зачатыя ў купальскую ноч. Бусел, па-цяперашняму кажучы, стаўся "стрэлачнікам". Згубу дзявочай цноты і сексуальную свабоду, якая існавала ў гэтую ноч за часам паганскім, "спісалі" на птаха і тлумяць галаву дзіцяці гэтай казкай не адно стагоддзе.

Між тым, спяшаюся вам паведаміць: святая жывёла ў беларусаў ёсць. Дакладней, не проста ў беларусаў, а — ў глыбачанаў. Гэта жывёла — баран. Чарапы барана, а таксама авечкі і казла, знайшлі беларускія археолагі ў мужчынскіх пахаваннях пад час раскопак на Глыбоччыне. Чарапы барана і авечкі захаваліся ў пахаваннях каля вёсак Чарневічы і Залескі. Вось як апісвае археолаг Людміла Дучыц адно з такіх пахаванняў:

" У курганах каля вёскі Шо выяўлены бранзалеты, пярсцёнкі, пацеркі, фібулы, нажы, крэсівы, сякеры, наканечнікі дзідаў. У адным з мужчынскіх пахаванняў быў срэбны медальён у выглядзе арабскага дырхема канца X — пач.X1 ст.. У гэтым курганным могільніку было пахаванне хлопчыка 7-9 гадоў з багатым інвентаром, у які ўвайходзіла падковападобная фібула, рэшткі скураной світкі і скуранога пояса, упрыгожаннага пласцінкамі з рэльефным арнаментам, са спражкай сэрцападобнай формы. Да пояса быў прымацаваны нож, на правай руцэ пярсцёнак і бранзалет, а каля ног ляжала вялікая сякера з шырокім лязом. Побач з касцяком захаваўся чэрап барана".

Як выглядае з вышэй апісанага, чуткі пра тое, што беларусы, у дадзеным выпадку — глыбачане, некалі хадзілі ў ліпавых лапцёх, занадта перабольшаныя. Апраналіся багата і згодна з модай таго часу!

Між тым, чарапы барана альбо авечкі нідзе больш у старажытных пахаваннях на Беларусі не сустракаюцца. Хіба яшчэ толькі ў гнездаўскіх курганах на Смаленшчыне. Гнездава быў буйнейшым гандлёвым пунктам, дзе спынялася і шмат скандынаваў. У самой жа Скандынавіі ахвярапрынашэнні гэтых жывёл — з'ява звычайная. Казёл там быў прысвечаны Тору— Пяруну, боству земляробства і сямейнай аселасці. Ён ездзіў на фурманцы, якая была запрэжана двума казламі.

Па ўсяму бачна, што знаходкі чарапапоў бараноў і казлоў у пахаваннях на Глыбоччыне звязаны з нейкім мясцовым старажытным культам, занесеным сюды вікінгамі.

А вось якую цікавую інфармацыю падае ўраджэнец Глыбоччыны Вацлаў Ластоўскі ў часопісе "Крывіч" (1926-27гг.№12, стар.68), які ён выдаваў разам са сваім земляком, архітэктарам Клаўдзіем Дуж-Душэўскім, аўтарам бел-чырвона-белага нацыянальнага сцяга на эміграцыі ў Коўне, аб праявдзенні старога звычаю Дзядоў каля вёскі Рэчкі. Аўтар піша:

"... У гэтую ноч збіраліся старыя сяляне, прыводзілі з сабой казла (альбо барана), распальвалі на цвінтары агонь, рэзалі казла, варылі яго ў капліцы і з абрадавымі песнямі ўладкоўвалі памінальную вячэру..."

Паданні пра казла згадвае даследчык Глыбоччыны канца X1Xст., захавальнік Віленскага музея старажытнасцяў, Ф.В.Пакроўскі — нібыта казла ноччу бачаць на курганах. На Глыбоччыне можна пачуць і паданні, што нібыта на Купалле бачылі белага баранчыка, які праваліўся скрозь зямлю.



Старажытны сімвал, выбіты на адным з камянёў на Глыбоччыне.

Між тым, недалёка ад самага глыбокага возера Глыбоччыны і Беларусі, Доўгага, на адным з цвінтарных камянёў, знойдзена выява васьмікутнага крыжа. Скрыжаванне ліній у цэнтры фігуры, вельмі выразна, вылучае выяву свастыкі. Гэтая мясцовасць знайходзіцца ў невялікай адлегласці ад вышэй згаданых раскопаў, дзе ў пахаваннях знойдзены чарапы бараноў. Сімволіка гэтай старажытнай выявы дзесь знітоўваецца з паходжаннем культа барана (казла) на Глыбоччыне, бо ў свастыцы старажытныя бачылі Сонца, перакрыжаванне маланак, молата Тора - Пяруна, які ездзіў на фурманцы, запрэжанай двума казламі.

Ёсць паданні, што культ барана святкаваўся і ў непасрэднай блізкасці ад Глыбокага, на славутай Варганскай гары, ад чаго, кажуць, і зазнала яна сваю назву — "Варгані". Гара дамінуе на адлеглых абшарах. Уночы тут запальвалася вогнішча і спраўляўся культ барана. У той жа момант, на адлеглай у 15 вярстах Кавальскай гары, у адначассе запальвалася вогнішча і таксама спраўляўся культ барана.

На збегу верасня месяца 1997 года на ровары я наведаў Кавальскую гару. Відовішча цудоўнае! Мясцовасць узвышаецца над усім абшарам. Унізе— сінія бары і жоўтыя восеньскія гаі - па ўсім наўкольлі, аж да небасхіла. Удалечыні, у клубах туману, пік Варганскай гары, дзесятак кіламетраў у бок, у вялікай і глыбокай даліне — Глыбокае з "хмарачосамі" камбікормавага завода і малочнакансервавага камбіната, вежы Троіцкага касцёла і Кафедральнага сабора...

Наша прыгожая, цудоўная і вечная Радзіма!

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

## САД. СЯДЗІБА. САЖАНЬ.

Слова "**сад**"вельмі старажытнае, па ўжо не раз ужытай тэрміналогіі, даведыйскае. Ужо ў санскрыце гэтае слова абазначае не першапачатак сваёй сутнасці, а толькі наступства. У санскрыце слова "**сада**" абазначае плод , **сад**авіну. З гісторыі індаеўрапейскай расы мы ведаем, што арыі займаліся земляробствам, а значыць і **сад**аводствам задоўга да прыходу ў Індыю , таму нічога дзіўнага ў тым, што за 1,5 тысячы гадоў да нашай эры **сада** - гэта ўжо плод, няма. Безумоўна можна пайсці і ад плода да дрэва, але тут на баку першай версіі — гісторыя, згодна з якой у Малой Азіі, адкуль арыі хутчэй за ўсё рассяліліся ў Індыю было высокаразвітае паліўное



**Сядзіба.** Вяночны двор.

зямляробства і садаводства, а вось з дзікімі пладамі там цяжэй. Але ў дадзеным выпадку гэтыя развfamжанні не носяць прынцыповага характару. Прынцыповым з'яўляецца тое, што сад сам не расце, яго трэба **сад**зіць і корань дзеяслова **садзіць** ляжыць у аснове ўсяго гэтага гнязда словаў. Ад гэтага кораня бяруць пачатак усе назоўнікі, якія абазначаюць нейкія на**сад**жэнні: пры**сады**, па**сад**ка, **сад**жанцы.

Ад гэтага кораня і **сядзіба** , па азначэнню: комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў разам з дваром, агародам і **садам**. Нельга адназначна сказаць, што вызначыла назву : сад ці тое, што гэты комплекс пабудоў **садзілі** на адпаведнае месца, але хутчэй за ўсё сад, бо існуе слова **сяліба**, якая абазначае той жа комплекс пабудоў, але, магчыма, дзесці ў даўніне - комплекс без саду. Пазней ўсё гэта перабблыталася і што **сядзіба**, што **сяліба** пачалі абазначаць адно і тое ж. На сад ужо ніхто не звяртаў увагі. Ад дзеяслова **садзіць** пайшло і шмат іншых словаў: ад слова "**пасад**" "вялікакняскі пасад" да сучаснага **паседжання**. Акрамя князя на **пасад** садзілі маладую , а то і маладога. Маладую садзілі на дзяжу, пакрытую кажухом, або на куфар, ці падушкі, якія яна мела забраць з сабою. Усё, што брала маладая называлася **пасаг**, што ізноў жа ідзе ад слова пасад, садзіць. Ад слова садзіць ідзе і слова **саджалка**. Напрыклад, **бульбасаджалка**. Ідзе і слова **сажалка**. Што тут найперш саджалі, ці прысады вакол, ці саджалі мачыць лён ды каноплі, ці "саджалі" малькоў рыбы.

Ад слова **садзіць** паходзіць і мера даўжыні **сажань**. Тлумачэнні разумных кнігаў пра тое, што слова **сажань** паходзіць ад слова **сягаць** не вытрымлівае крытыкі. "Сягаць", "абсяг" звязаныя з мерай даўжыні ці прасторы, але непамерна большай, а сажань мае даволі канкрэтную даўжыню. У Вялікім Княстве гэта — 3 локці, або 194,8 см, у Расеі 213,36 см., на Беларусі вядомы былі тры віды сажняў: скарбовы або касы; махавы або ручны; купецкі або дзевяціфутавы. З купецкім усё зразумела. Ён позняга паходжання і прывязаны да фута: ангельскага, ці яшчэ якога.Махавы ці ручны - прыблізная мера на велічыню максімальна расцягнутых у бакі рук, а вось касы, або скарбовы : асноўны сажань. З ім справы цікавей. Вось дзве вытрымкі са старых дакументаў: "...такежь жаловали намь, штожь здавна мошчывали каждый человекь передь своимь двоtомь пяти топоришчь"; "... нижели я на тоть часъ з дому своего не мог вывести... тесниц меншых сорок девет, каждая по два сажни и по два топоришча".Тут "тапарышча", даўжыня ручкі сякеры, скарыстоўваецца, як мера даўжыні і скарыстоўваецца разам з мерай "сажань", як дробныя ад "сажаня". Тапарышча мера вельмі зручная для плотніка раз-раз і памераў. А ці не мог і **сажань** быць такой жа ручкай ад нейкай прылады працы, якая была **насаджана** на яго. Згадаўшы даўжыню сажня 1,94(2,13) і ўсе прылады працы ды зброю, якія скарыстоўваліся ў той час мы знайходзім, што пад згаданую даўжыню падпадаюць дзіда і каса. Ну, дзіда адпадае, бо яна не для мераў, а вось каса. Чым, скажам, размераць луг на дзялянкі. Вядома : кассём. Вось тут і згадаем **касы сажань**, як **сажань касы**, "палку" на якую **насаджана** каса. Пра слова "каса" гаворка будзе асобная, а вось калі трэба прымацаваць касу да касся гавораць : "**асадзіць касу**". Гавораць асадзіць і пра рыдлёўку, і пра сахор, і пра сякеру, малоток, долата. І тут корань <u>сад</u> .

Ад гэтага кораня і слова сядло, падсядзёлак, седлавіна, сядак, сядзенне і шмат іншых. Але іх паходжанне відавочна . Не выключна, што ў сувязі са словам сад трэба разглядаць і слова суд. Далёка па гучанні, сэнсе, але згадаем, як гэтае



**Сядзіба.** Пагонны двор.

слова пішацца па польску : Sad. Гэта значыць, што калісці яно гучала "сад" і магчыма пайходзіла ад таго , што суддзі сядзелі ці асуджаннага саджалі, але, паколькі асуджанных тады саджалі рэдка, больш вешалі ды галовы адсякалі, то хутчэй трэба абапірацца на суддзяў. Тым больш, што ў Вялікім Княстве суддзі называліся лаўнікамі ад той самай лавы на якой яны **сядзелі і судзілі**. Магутнае адгалінаванне словаў з гэтага гнязда дае і слова "**сяліба**".Гэта: сяло, паселішча, селянін, аселіца і мноства іншых, але ўсе яны зводзяцца да словаў "**селі**", "**аселі**". А **аселі** абазначае: **пачалі сядзець,** што зноў выводзіць на слова "садзіць". Таму так лёгка і дапасоўваюцца адно да другога словы "сядзіба" і "сяліба". Нельга сказаць, што ўсе гэтыя развражанні супраўда ў апошняй інстанцыі, але гняздо словаў з коранем **сад** сабралася даволі шматлікае, разнастайнае і цікавае.

***Станіслаў Суднік.***

# *Выстава фатаграфій з прыватных збораў М. Раманюка і У. Парфянка*

Фотадакументы з'яўляюцца важнай складовай часткай з агульнага фонду дакументаў, якія расказваюць пра гісторыю нашай краіны, адлюстроўваюць сабою пэўны этап яе рахвіцця і час. Фотаздымкі дапамагаюць людзям больш глыбей зразумець пэўны адрэзак гісторыі, адчуць дух таго часу. Таму, невыпадкова, што розныя выставы фотадакументаў, якія праводзяцца ў рэспубліцы, маюць мэту больш дакладней паказаць людзям пэўную эпоху ў жыцці краіны праз выявы на фотаздымках.Так, у снежні-студзені 1997-1998г.г. ў бібліятэцы імя Янкі Купалы праводзіцца выстава фотаздымкаў з прыватных збораў М.Раманюка і У. Парфянка. Размешчана выстава на першым паверсе бібліятэкі ў такім парадку: з аднаго боку сцяны залы размешчаны фотаздымкі, якія былі зроблены фотамайстрамі ў канцы X1X стагоддзя і ў пачатку - сярэдзіны XX ст., а з другога боку залы размешчаны фотадакументы, зробленыя сучаснымі фотамайстрамі.Тэматыка гэтых фотаздымкаў розная. У асноўным фотамайстры проста мелі на мэце паказаць, як яны бачылі тую гістарычную эпоху, у якой жылі. Значную колькасць гэтых фотадакументаў складаюць фотаздымкі, зробленыя на рубяжы X1X-XX стагодзяў, а таксама і сярэдзіны XX ст.. невядомымі фотамайстрамі. Фотадакументы гэтага часу адлюстроўваюць жыццё людзей на гэтым этапе гісторыі. Аўтары фотаздымкаў паказалі свой час з пэўнымі адметнасцямі і праблемамі. У асноўным яны высвецілі ў сваіх работах людзей у розных жыццёвых гісторыях.Так,невядомы майстар у 1950 годзе зрабіў фотаздымак "Маці калыша дзіцё", падкрэсліўшы яшчэ раз важнасць і высакароднасць мацярынскага доўгу. А другі, невядомы майстар, у 1900 годзе зрабіўшы фотаздымак двух жаўнераў, адзначыў гераічнасць жаўнерскага абавязку, яго прымусовую неабходнасць. Тэматыка іншых невядомых фотамайстроў розная, але з другога пункту гледжання — аднолькавая, бо ўсе яны адлюстроўваюць жыццё свайго народа, яго праблемы, дзейнасць. Сярод фотаздымкаў гэтага перыяду тут прадстаўлена: выява рамонту маста... (1900 г.), выява дзяцей (1890г.), выява людзей на прыродзе ў час адпачынку (1940г.), выява сям'і з дзіцем (1900г.), якія былі зробленыя невядомымі мастакамі. Маюцца тут работы вядомых фотамайстроў — Блажко і Зубея. Тэматыка фотаздымкаў Зубея дзейнасць чалавека. Гэта яго працы: "Тушэнне загарэўшайся царквы" (1936г.) , "Апрацоўка скуры сялянамі" (1900г.), "Пахаванне" (1900г.) . Блажко ў адрозненні ад Зубея фіксаваў проста выявы людзей: дзеці (1880г.), выявы жанчын (1900г.). Што датычыцца фотаздымкаў, зробленых сучаснымі майстрамі, то яны адлюстроўваюць нашае жыццё і яго праблемы ў канцы XX ст. . Так, фотамайстар Я. Макараў зрабіў цыкл фотаздымкаў "Узрост цьмяных жаданняў" прысвечаныя праблемам сучаснай моладзі (1991-1994г.г.) Маюцца тут і фотаздымкі М. Базарава з цыкла "Узаемаадносіны" (1984г.) , якія асвятляюць стасункі дзвюх палоў чалавецтва - жанчыны і мужчыны. Маюцца тут фотаздымкі У.Шаклевіча, Г.Радзінова і іншых майстроў таго часу. Гэтая выстава дае наведвальнікам некаторыя ўяўленні пра пэўныя этапы ў гісторыі нашай краіны. Дапамагае зрокава ўспрыняць пэўную карціну жыцця людзей на рубяжы X1X-XX і ў канцы XX ст.

**Карэцкі А.У.--Ф.Б.І.С. музейная справа,група №105.**

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
2313000, г. Ліда-2, а/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове. Газета падпісана да друку 3 . 02 . 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 327.